# Піонэрская пляцоўка ў вёсцы




„Чырвоная Зьмена"




# ПІОНЭРСКАЯ ПЛЯЦОЎКА Ў ВЁСЦЫ






„Чырвоная Зьмена“
Менск—1927

## За ажыўленьне работы атрадаў

*(Замест прадмовы)*

Вопыт мінулага году паказаў, што разгортваньню масава-аздаравіцельнай работы сярод дзяцей, як аднэй з галоўных задач у летні час, піонэрскія атрады і ячэйкі комсамолу мала аддавалі ўвагі. У правадзімай рабоце была раскіданасьць—атрад намячаў праводзіць вялікую работу, складаліся пляны, а вынікаў работы часта і ня відаць было. Гэта яшчэ будзе наглядацца і надалей, калі піонэрскі атрад, як адзінка, ня будзе ставіць у сваёй рабоце канкрэтных задач, калі ён ня будзе хапацца адразу за выкананьне многіх заданьняў.

Зараз у парадку дню стаіць задача ажыўленьня работы піонэр-організацыі—прыстасаваньне яе да гаспадарчых і культурных патрэб свайго раёну, вёскі, да запатрабаваньняў самых дзяцей. Ажыцьцяўленьне гэтай задачы будзе адбывацца пры ўмовах, калі атрад будзе выбіраць такую работу (заданьне), якая зьяўляецца маленькай часткай вялікай і агульнай работы правадзімай Партыяй і Савецкаю ўладаю. І тут трэба падкрэсьліць, што работа не павінна навязвацца зьверху. Трэба менш указаньняў і дырэктыў з боку Акругавага, Раённага бюро ЮП.

У атрадах маецца такое становішча, калі павадыр альбо савет атраду прапануе зьвенам правесьці тую ці іншую работу, ня ўлічваючы таго, ці жадаюць выконваць яе самі піонэры і ці будзе яна

мецЬ для іх карысьцЬ. У выніку, піонэры працуюцЬ неахвотна і часта з-за гэтага выходзяцЬ з атрадаў. Нам трэба высунуцЬ лёзунг:

— Больш самадзейнасьці, ініцыятывы саміх піонэраў, дацЬ ім магчымасьцЬ самім выбірацЬ сабе работу, якая іх цікавіцЬ, дапамагчы групе піонэраў, нават асобным піонэрам альбо зьвяну організавацЬ іх работу.

Справа раённага бюро ЮП, павадыра атраду праз пэўны падбор матар'ялаў, умелай пастаноўкай сваёй работы, накіравацЬ думку піонэраў на выбар такога канкрэтнага заданьня, якое-б зьяўлялася часткай грамадзка практычнай работы і выходзіла-б з задач Партыі і Савецкай улады данай мясцовасьці. Не затушоўвацЬ сваім удзелам у рабоце атрада самадзейнасьці піонэраў. Кожную правадзімую работу, мэтады яе правядзеньня, трэба дакладна ўлічвацЬ, каб потым вопыт работы можна было перадацЬ і другім атрадам, што нашымі атрадамі вырашаецца вельмі слаба.

Напэўна, ужо кожны атрад ведае, што работа організацыі павінна праводзіцца па мэтаду заданьняў. Тут не пашкодзіцЬ каротка сказацЬ, як працавацЬ па заданьням.

Цэнтральнае Бюро ЮП і акруговае высоўваюцЬ перад атрадамі ЮП шэраг заданьняў, напрыклад: ачыстка садоў вясною, палепшаньне курагадоўлі ў сваёй вёсцы, організацыя піонэрскай пляцоўкі, распаўсюджваньне дзіцячага друку і г. д. Атрад ЮП, атрымаўшы заданьне альбо прачытаўшы аб гэтым у газеце ці часопісі, абмяркоўвае ў сябе ці трэба праводзіцЬ гэтыя заданьні і якое заданьне лепш усяго правесьці ў сваёй вёсцы. Магчыма, што ў данай вёсцы няма пляцоўкі, дзе можна было-б праводзіцЬ піонэр-атраду сваю работу летам; альбо зусім мала распаўсюджваецца карыснай, як для дзя-

цей, так і для сялянства літаратуры, газэт, маюцца сады, якія прыносяць мала карысьці таму, што яны запушчаны—сяляне не даглядаюць іх, бо ня ўмеюць,—значыцца, справа піонэрскага атраду выявіць гэтыя ўмовы, выходзячы з чаго і выбраць сабе заданьне—канкрэтную работу.

Уявім сабе, што ў якой-небудзь вёсцы няма пляцоўкі для піонэрскага атраду і атрад рашыў узяцца за організацыю яе. Спачатку пытаньне абгаварваецца на савеце і зборы атраду, пасьля канчаткова разглядаецца і абмяркоўваецца на ячэйцы комсамолу. Ячэйка КСМ павінна абмеркаваць высунуты праэкт атрадам, уключыць гэта пытаньне ў свой плян работы, намеціць шэраг практычных мерапрыемстваў па дапамозе атраду ў яго рабоце, напрыклад: дагаварыцца з сельсаветам, Камітэтам Сялянскай Узаемадапамогі аб водпуску кавалка зямлі пад пляцоўкі, агарадзіць пляцоўку, дапамагчы ў адшуканьні сродкаў для закупкі неабходных рэчаў на пляцоўцы, вылучыць асобных таварышоў для работы на пляцоўцы, каб, такім чынам, утварыць неабходныя ўмовы для выкананьня атрадам заданьня.

Работа атрада па выкананьню заданьня выяўляецца ў наступным:

а) піонэры зьвёнамі выяўляюць умовы для організацыі пляцоўкі, зьбіраюць неабходныя матар'ялы, згодна разьмеркаваньню гэтай работы саветам павадыроў. Выносіцца пытаньне на абгаварэньне ячэйкі КСМ;

б) на аснове сабраных ведаў і матар'ялаў высоўваюцца асобныя мерапрыемствы па выкананьню агульна-атраднага заданьня. Прыцягваюцца неабходныя культурныя сілы для дапамогі ў рабоце. Праводзіцца сход бацькоў і інш.;

в) праводзіцца практычная работа: сбор сродкаў, праца (набыцьцё розных прылад і інш.);

г) пасьля правядзеньня работы робіцца падагульненьне на зьвёнах, атрадзе, як выканана заданьне, якія памылкі, чаму навучыліся піонэры. Усё гэта запісваецца ў дзеньнікі, пішацца артыкул у газэту альбо ў часопісі.

Многія атрады падумаюць, што акрамя аднаго заданьня ня трэба ніякай іншай праводзіць работы— гэта будзе няправільна. Кожны атрад павінен ведаць, што:

1. На кожным заняцьці зьвяна, трэба каб быў час для правядзеньня іншай работы па жаданьню саміх піонэраў, як: чытка цікавых апавяданьняў, газэт, гульня ў шашкі, розныя іншыя гульні, маляваньне і г. д.

2. На зборы атрада акрамя работы навокал выкананьня агульна атраднага заданьня трэба, каб быў час для заняткаў па фізкультуры, для правядзеньня масавых гульняў, экскурсіяў, прагулак, колектыўных купаньняў і г. д.

3. На зборах атрадаў, зьвён могуць ставіцца і пабочныя пытаньні (ня зьвязаныя з выкананьнем агульна-атраднага заданьня) на тэмы, якія цікавяць піонэраў: падзеі ў Кітаі, Заходняй Беларусі, чаму сьвяткуецца якое-небудзь сьвята, што трэба рабіць, каб быць здаровым, як сябе весьці сярод неорганізаваных і інш. Зьвёны, побач з выкананьнем агульнага заданьня могуць выбіраць сабе асобныя заданьні і выконваць іх: як даглядаць цьвятнікі, вазоны (асабліва гэтым павінны цікавіцца дзяўчаты), організаваць колектыўна градкі і засадзіць іх, зрабіць радыё-прыёмнік, зрабіць якую-небудзь мадэль і інш.

Уся гэта работа можа быць для піонэраў тады цікавай, калі піонэрскі атрад вызначыць, якая конкрэтная работа перад ім стаіць і зробіць сталы расклад яе, знойдзе асяродак (месца) дзеля яе пра-

вядзеньня. Яскрава вызначаная работа будзе ня толькі цікавіць піонэраў, а і неорганізаваных дзяцей. Неорганізаваныя бяз усялякай агітацыі зацікавяцца работай атрада: будуць хадзіць сумесна з піонэрамі купацца, гуляць, на прагулкі, слухаць гутаркі ў атрадзе, чытаць газэты, дапамагаць, а не перашкаджаць рабоце атрада ЮП.

Піонэрскі атрад не павінен забывацца, што ён зьяўляецца організатарам неорганізаваных дзяцей, што яго работа трэба каб цікавіла ўсіх дзяцей і іх бацькоў. Для гэтага атраду трэба намеціць пункты сваёй работы, якая-б цікавіла піонэраў, правільна разьмеркаваць яе, найсьці месца для работы, а такім месцам у летні час, дзе концэнтрыруецца ўся работа піонэрскага атраду ў вёсцы, зьяўляецца піонэрская пляцоўка.

Як організаваць пляцоўку і работу на ёй сказана ў гэтай кніжцы, матар'ял якой зьяўляецца перакладам з расійскага.

Справа вясковага піонэрскага атраду, ячэйкі комсамолу сумесна з культурнымі сіламі ўзяцца:

*За організацыю ў сваёй вёсцы піонэрскай пляцоўкі!*

**А. Пякарчык.**

# ПІОНЭРСКАЯ ПЛЯЦОЎКА Ў ВЁСЦЫ

## Задачы пляцоўкі

Вопыт пашырэньня вясковых піонэрскіх пляцовак, па думцы ЦБ ЮП, даволі яскрава паказаў:— першае, што наладжваць такія пляцоўкі зусім неабходна і, другое, што організаваць пляцоўку не асабліва цяжка; для гэтага ня трэба патраціць шмат сіл і сродкаў.

У бягучым годзе ўлетку вясковым атрадам прыдзецца адным з асноўных пытаньняў сваёй працы паставіць працу на пляцоўцы.

Для чаго патрэбна пляцоўка? Якія перад ёю стаяць задачы?

На гэтыя пытаньні павадыр павінен змагчы даць зусім абмеркаваны адказ.

Пляцоўка для сялянскіх дзяцей патрэбна для таго, каб організаваць іх штодзённае жыцьцё, працу, вучобу і, асабліва, для таго, каб загартаваць іх здароўе. На пляцоўцы дзеці разумна праводзяць час, знаходзячыся часта адзін з другім, гэтым самым замацоўваючы таварыскую спайку і атрымліваючы колектыўныя (грамадзкія) навыкі.

На пляцоўцы трэба адвучыць дзяцей ад курэньня, кулачных боек, лаянкі. Там-жа дзеці атрымаюць шмат практычных ведаў і навыкаў: лепш працаваць

у сельскай гаспадарцы дома, больш сьвядома і ўмела выконваць штодзённую працу, якая патрэбна і неабходна чалавеку.

Пляцоўка, стала быць, арганізуе, выхоўвае піонэраў, робіць іх больш здаровымі, актыўнымі, разьвітымі. Тут-жа дзеці змогуць у патрэбнай колькасьці для свайго здароўя выкарыстаць „падарункі прыроды“ — сонца, паветра, ваду, зелень. Піонэры змогуць, такім чынам, узмацніць сваё здароўе, што асабліва патрэбна, бо яны ўсю зіму жылі ў дрэнных умовах, працавалі ў духотных хатах і г. д.

Вось чаму піонэрская пляцоўка ў вёсцы, бясспрэчна, дасьць вялікую карысьць у справе комуністычнага выхаваньня падрастаючага пакаленьня новай савецкай вёскі.

Цэнтральнае бюро ЮП высоўвае наступныя асноўныя задачы перад піонэрскімі пляцоўкамі ў вёсцы:

1. Арганізаваць і зьяднаць сялянскую масу дзяцей пад кіраўніцтвам піонэраў і комсамолу, даць ёй разумны адпачынак, навучыць яе выкананьню тае ці іншай працы.

2. Узмацніць і ахоўваць здароўе піонэраў і іншых дзяцей.

З гэтых двух асноўных задач выплывае шэраг іншых задач, хоць і больш дробных, але даволі важных. Гэтыя задачы маюць чыста мясцовы характар і таму яны, у першую чаргу, паўстаюць перад асобнымі атрадамі і выходзяць цалкам з умоў працы гэтых атрадаў.

Уся шматлікая грамадзка-карысная дзейнасьць піонэраў у вёсцы (работа ў ясьлях, з падпаскамі, на начлезе, на школьным агародзе, па нагляданьню за прыродай мясцовасьці) праходзіць праз пляцоўку.



Пляцоўка мае мэту навучыць дзяцей сьвядомай, дысцыплінаванай працы. А гэта праца дасьць карысьць толькі ў тым выпадку, калі піонэры разгорнуць творчую ініцыятыву, г. зн. зацікавяцца ўсім, што іх акружае, пачнуць самі брацца за розную работу, мерапрыемствы, не баючыся перашкод.

Асабліва шмат карысьці прынясе добрая пляцоўка для сялян.

У летні гарачы час, калі ўсе дарослыя заняты працай на полі, можна будзе, не баючыся небясьпекі, пакідаць маленькіх дзяцей на пляцоўцы, догляд за якімі даручыць старэйшым піонэрам і піонэркам. Ці-ж гэта ня лепшая дапамога сялянкам?

На пляцоўцы організуецца ўся дзейнасьць дзяцей вёскі. Тут дзеці моцна прывыкаюць адзін да другога, гэта адно цэлае, злучанае паміж сабою аднолькавымі імкненьнямі, працаю і цікавасьцямі. Тут будзе групавацца ўся грамадзкая дапамога дарослых сялян, культурных сіл вёскі, комсамолу і мясцовых грамадзкіх організацый—піонэрам і ўсім дзецям.

Пагэтаму пляцоўка ў вёсцы зможа і павінна стаць асяродкам грамадзкай самадзейнасьці, у першую чаргу, організаваных дзяцей.

**Што трэба ведаць павадыру?**

Напавадыра атраду ляжа ўвесь клопат па ўтварэньню пляцоўкі. Праца гэта нялёгкая, і адзін павадыр наўрад ці зможа з посьпехам яе выканаць. Дабіўшыся дапамогі ўсяго атраду, ячэйкі комсамолу, партыі і мясцовага сельскага савету, школы, можна распачаць працу па організацыі пляцоўкі.

Ці пры кожным атрадзе абавязкова павінна быць наладжана пляцоўка?

Зразумела, не. ЦБ ЮП лічыць, што важна змагчы забясьпечыць добры зьмест самой работы на пляцоўцы, а ня гнацца за колькасьцю пляцовак. Пагэтаму пляцоўкі, у першую чаргу трэба, арганізоўваць у раённых цэнтрах, а ўжо пасьля, у другую чаргу, пры ўсіх іншых моцных, працаздольных вясковых атрадах.

Дзе вырашаць пытаньне аб утварэньні плацоўкі?—Спачатку абгаварыць яго на зборы з піонэрамі, даведацца аб іх думцы адносна пляцоўкі, а пасьля паставіць на бюро ячэйкі ЛКСМБ і на пасяджэньні райбюро ЮП.

Павадыру прыдзецца самым уважлівым і асьцярожным спосабам выясьніць і ўлічыць пры арганізацыі пляцоўкі запатрабаваньні мясцовых дзяцей. Толькі той пляцоўкай зацікавяцца піонэры і неарганізаваныя, праца якой для іх будзе блізкай, зразумелай і прывабнай. Нельга прывабіць дзяцей толькі гульнямі, гэтак сама і чыткамі, гутаркамі, працоўнымі навыкамі. Трэба ўмець разьмяркоўваць заняткі, разумна і ўмела злучаць іх з жаданьнем і настроем дзяцей.

Калі цікавяцца дзеці сваімі мясцовымі гульнямі— перанесьці гэтыя гульні на пляцоўку, калі любяць яны слухаць цікавыя апавяданьні — арганізаваць чыткі мастацкіх бытавых апавяданьняў на пляцоўцы.

Ведаць імкненьне дзяцей, змагчы адказаць на іх здаровыя запатрабаваньні—вось тая задача, над якой трэба сур'езна папрацаваць кожнаму павадыру, каб з посьпехам яе выканаць.

Пры жаданьні, упэўненасьці ў тым, што арганізацыя пляцоўкі пройдзе з посьпехам, з дапамогай мясцовых культурных сіл, кожны вясковы павадыр наладзіць работу на пляцоўцы.

## З чаго пачаць?

Пасьля таго, калі ячэйка ЛКСМБ вынесла пастанову аб неабходнасьці ўтварэньня пляцоўкі, павадыру трэба гэту пастанову правесьці ў жыцьцё.

З чаго лепш усяго пачаць?

Перш за ўсё трэба дабіцца згоды ад сельскага савету, каб ён адвёў дзе небудзь вызначаны кавалак зямлі, для пляцоўкі. Калі маецца школа, а пры ёй вольны кавалак зямлі, які зможа падыйці для пляцоўкі, дык трэба дагаварыцца з загадчыкам школы і піонэрам разам з вучнямі абстаўляваць пляцоўку.

На вялікі жаль, рэдка дзе пры школах маюцца зручныя месцы для пляцовак. Тады трэба прасіць, каб сельсавет даў піонэр-атраду кавалак зямлі, можна які небудзь пустыр, для організацыі пляцоўкі. Загады цэнтральных органаў адносна дапамогі ў організацыі пляцовак у раёнах і сельсаветах маюцца. Значыцца, савет, а таксама і ўсе сяляне, напэўна, згодзяцца дапамагчы піонэрам, асабліва, калі гэта пытаньне будзе высьветлена на сходах сялян і калі піонэрскі атрад карыстаецца ў іх пэўным аўтарытэтам.

Цяпер адносна выбару месц. Выбар месца мае вялікае значэньне. Лепш усяго выбіраючы месца парадзіцца з доктарам і настаўнікам. Ва ўсякім разе трэба памятаць наступнае:

1. Пляцоўка павінна быць роўная, незачыненая ад сонца.

2. Пажадана, каб з паўночна-ўсходняга боку ад яе знаходзіліся якія-небудзь будынкі, лес і г. д., што можа захоўваць яе ад ветру. Важна таксама мець зблізку раку, у якой можна будзе купацца.

3. Трэба ўхіляцца тэй мясцовасьці, дзе маецца шмат пылу (напрыклад, ля шляху, балотныя глебы,

глiнiстыя глебы (пасьля дажджу доўга трымаецца гразь), адным словам, трэба выбiраць месца карыснае для здароўя.

4. Лепш за ўсё месца выбiраць за вёскай; добра, калi гэта месца будзе зручным для наведваньня яго ў сьвяточныя днi дзяцьмi суседнiх вёсак.

5. Разьмер пляцоўкi вызначаецца ў залежнасьцi ад лiку дзяцей, якiя будуць наведваць пляцоўку; на кожнага чалавека неабходна ад 5 да 10 квадратовых метраў зямлi.

6. Пляцоўка не павiнна быць вузкай, перасякацца дарогай (нават калi там будзе праходзiць сьцежка—яна перашкодзiць правiльнай працы), не павiнна знаходзiцца ля розных сьметнiкаў. Лепшым будзе, калi для пляцоўкi падыйдзе тое, месца, дзе дзецi i раней зьбiралiся, пелi, гулялi, вадзiлi карагод i г. д.

Калi толькi знойдзецца зручнае месца i пiонэры атрымаюць дазвол на ўтварэньне пляцоўкi, трэба пачаць практычна выконваць загадзя вызначаную працу.

Атрад павiнен улiчыць матар'яльныя сродкi, якiмi ён зможа карыстацца. Яму могуць дапамагчы: коопэрацыя, вылучыўшы некалькi рублёў для пiонэраў са сродкаў, якiя йдуць на культурную працу; мясцовы драмгурток, якi наладзiць на карысьць пляцоўкi платны вечар; сельскi савет, комунiстыя i комсамольцы, сабраўшы некаторую колькасьць грошай. Чым кольвек, асаблiва патрэбнымi рэчамi, можа дапамагчы i гарадзкi атрад, якi зьяўляецца шэфам таго цi iншага вясковага атраду. Пiонэры гораду пасылаюць паперу, фарбы, кнiжкi, мячы i розныя рэчы, патрэбныя для пляцоўкi, якiя яны вырабляюць у сваiх майстэрнях.

На пляцоўку потрэбна мець параўнаўча невялi-

кія сродкі. У крайнім выпадку амаль што бяз сродкаў можна наладзіць пляцоўку і ня дрэнна працаваць на ёй.

Пасьля гэтага трэба склікаць сход бацькоў піонэраў, зацікаўленых сялян і комсамольцаў, дзе прапрацаваць пытаньне, як практычна пабудаваць пляцоўку і дабіцца падтрымкі ў гэтай справе з боку сялян, у тым сэнсе, што яны абавязкова пашлюць на пляцоўку сваіх дзяцей.

Пасьля таго, калі скончыцца падрыхтоўчая праца, павадыры ўсвоілі свае задачы, выбрана зручнае месца, і г. д., трэба перайці да абсталяваньня пляцоўкі.

## Расплянаваньне і абсталяваньне пляцоўкі

Пляцоўку пажадана абгарадзіць нявысокім рэдкім плотам, або абкапаць невялікім ровам. Гэта можна выканаць сіламі старэйшых піонэраў і комсамольцаў.

Унутры пляцоўкі ля самага плоту, прыблізна на 1 мэтр, трэба ўзараць мясцовасьць і пасеяць канюшыну або якія небудзь іншыя расьліны. Гэта зробіць выгляд нашай пляцоўкі больш прыгажэйшым.

З двух бакоў плот павінен мець праход—галоўныя вароты і праход у адхожыя.

Пляцоўка павінна мець: Каля зяляніны сьцежку для бегаў вакол усёй пляцоўкі і для скаканьняў; невялікую роўную, вольную частку для масавых рухавых гульняў, для заняткаў па фізкультуры і г. д. і частку, якая будзе служыць месцам для спакойных заняткаў і адпачынку, дзе маюцца лаўкі, стаіць вада, стол для чытаньня, маляваньня і, урэшце, дзе зблізку маецца месца для заняткаў з малымі дзяцьмі (пясок і качэлі).

Неабходна мецъ пры пляцоўках адхожыя. Калі ня знойдзецца сродкаў для іх пабудовы, іх прыдзецца зрабіць самым простым спосабам: абгарадзіць дошкамі, выкапаць яму ў паўтары мэтры глыбінёю і паставіць на козлах (у выглядзе літары X) дзьве перакладзіны для сядзеньня і абапіраньня.

На пляцоўцы павінен быць адпаведны інвэнтар. Частку інструмантаў, калі самі піонэры ствараюць пляцоўку, яны могуць прыносіць з дому (напр., пілы, лапаты, сякеры, апцугі і г. д.), частку трэба ўзяць у школе, частку пастарацца самім зрабіць прасьцейшым спосабам і тады толькі найменшую частку купіць. Слупы для качэляў, калы для агароды і матар'ял для плоту зможа даць мясцовы савет.

Вось пералічэньне тых рэчаў, якія патрэбны для пляцоўкі:

1. Два вядры (у адным будзе вада для піцьця, а ў другім—для ўмываньня), мыла.

2. Некалькі конавак.

3. Вешалка для адзежы.

4. Стол.

5. Скрынка для гліны.

6. Скамейкі (або лаўкі).

7. Вяроўка (для качэляў і гульняў).

8. Спортыўныя прылады (розныя мячы, палачкі, гарадкі, лапта, жгуты, бабкі-ладыжкі, сьцяжкі, палкі вялікія і г. д.).

9. Прылады для прыбіраньня (лейка, мётлы, некалькі скрынак для пляваньня, граблі, насілкі, рыдлёўкі).

10. Аптэчка або, у крайнім выпадку, прылады для перавязваньня магчымых быць ранаў ад гульні: бінты, марля, вата, ёд і ксераформ).

11. Скрынка для кніжак, фарбаў, паперы і г. д.

12. Шашкі. У залежнасьці ад вынаходчывасьці піонэраў, на плацоўцы можна мець і іншае абсталяваньне, напрыклад, флюгер для таго, каб вызначаць вецер, дожджамер, сшытак для запісяй нагляданьня за прыродай; лейка, якой можна было-б абліваць цела; невялікі садзік з трусамі, яшчаркамі, гадамі, акварыум (для рыбак, жабаў і г. д.), кіпяцільнік, мыцельнік і шмат іншага. Але гэта апошняе робіцца ў тым выпадку, калі маюцца сродкі і самі ўдзельнікі даволі падрыхтаваны (напрыклад, вучацца ў сямігодцы). Наогул-жа ўводзіць шмат дробных абсталяваньняў, якія маюць другараднае значэньне, нявартa

Калі для плацоўкі няма месца для хаваньня інвэнтару, тады на ёй трэба зрабіць памяшканьне, дзе дзяжурны змог-бы нанач хаваць прылады пляцоўкі.

Трэба адзначыць, што ад абсталяваньня і расплянаваньня пляцоўкі вельмі шмат залежыць у сэнсе пасьпяховасьці ў працы на ёй.

## Адчыненьне пляцоўкі

У адну з майскіх нядзеляў, калі ўся праца па абсталяваньню пляцоўкі будзе скончана, неабходна наладзіць урачыстае адчыненьне пляцоўкі і пачатку працы на ёй.

Адчыненьне павінна зьяўляцца масавым дзіцячым сьвятам, якое наладжваюць піонэры, пад адчыненым небам для ўсіх дзяцей вёскі.

Сьвята падрыхтоўваецца загадзя і можа складацца, прыкладна, з трох такіх частак:

1. Урачыстае адчыненьне.
2. Спэктакль.
3. Масавыя гульні.

Урачыстае адчыненьне пляцоўкі адбываецца ў прысутнасьці ўсіх дзяцей, сялян і комсамольцаў.

Выбіраецца прэзыдыум і ставіцца адзін даклад: „Праца на піонэрпляцоўцы“.

Павадыр сьцісла гаворыць аб пляне працы на пляцоўцы. Адзін з піонэраў апавядае аб тым, як задумалі і наладзілі пляцоўку.

Вельмі добра, калі з пажаданьнямі для працы будуць выступаць сяляне. Пасьля прымаецца кароткая рэзолюцыя,—гаворыцца, што прыдзецца рабіць на налажанай пляцоўцы. У агульным увесь сход не павінен займаць больш 35—40 хвілін.

Спэктакль можа складацца з п'ескі, у якой будзе паказана праца піонэраў па ахове здароўя або жыцьцё вясковых піонэраў і неорганізаваных. П'еску трэба выбраць простую, якая не патрабуе амаль што ніякіх абсталянаньняў і грыму. Піонэры яе могуць падрыхтаваць з дапамогаю мясцовага драматычнага гуртка. Апрача п'ескі, можна даць песьні, фізкультурныя практыкаваньні, харавую дэклямацыю і г. д.

Асабліва-ж важна організаваць масавыя гульні і забавы для дзяцей. Гэтыя гульні павадыр выбірае загадзя і развучвае іх з піонэрамі.

Усё сьвяткаваньне павінна зацягнуцца ня больш як 3 гадзіны, у іншым выпадку дзеці зморацца і ня будуць прымаць актыўнага ўдзелу.

Сьвята павінна пакінуць добрае ўражаньне ў дзяцей, жаданьне працаваць на пляцоўцы; яно надоўга застанецца ў іх памяці. Вось чаму атраду трэба добра падрыхтавацца да дню адчыненьня сваёй пляцоўкі.

### Што рабіць на пляцоўцы?

*Дакладнае абмеркаваньне ўмоў працы.* — Цэнтральнае бюро ЮП ня можа і ня лічыць неабходным даць гатовую програму заняткаў на пляцоўцы. Кож-



ны павадыр сам абмяркуе патрэбны для яго атраду плян працы і падасьць гэты плян на абгаварэньне ячэйкі КСМ.

Трэба мець на ўвазе:

1. Якога ўзросту, у якім ліку дзеці будуць наведваць пляцоўку. Выходзячы з іх сілаў і здольнасьцяй, вызначыць плян працы з імі.

2. Якія заданьні атрымаў атрад ад райбюро ЮП і якія мясцовыя абставіны (заданьні, напрыклад, могуць быць такія: вывучыць жыцьцё малых парабкоў, змагацца за чыстату ў хаце і хляве, навучыцца даглядаць за курамі і дапамагаць у гэтай справе дома і г. д.). Заданьні абавязкова павінны знаходзіць свой адбітак ва ўсёй дзейнасьці пляцоўкі.

У залежнасьці ад абсталяваньня і сродкаў наладжваюцца тыя або іншыя заняткі. Стары, больш моцны атрад, зразумела, зможа выканаць больш складаную працу. Такі атрад за лета організуе акцябрат, наладжвае вопытную дасьледчую і краязнаўчую працу, праводзячы ўсё гэта праз сваю пляцоўку.

*Час працы.* Як правіла—пляцоўка павінна быць адчыненай для працы кожны дзень. Асабліва трэба наладжваць працу ў сьвяточныя дні. Зранку, як даведзена практыкай, на пляцоўцы добра пакідаць па чарзе аднаго-двух піонэраў. На іх ускладаецца абавязак па організацыі адпачынку малых дзяцей і акцябрат. Увечары, гадзін з 5-ці, дзяжурыць па чарзе зьвяно (або, калі мала піонэраў—палова зьвяна), якое, апрача правядзеньня свайго звычайнага зьвеньнявога збору, яшчэ прываблівае да сваіх заняткаў вольных ад працы піонэраў і неорганізаваных.

Па пэўна вызначаных гадзінах, на вялікі жаль, працаваць на пляцоўцы нельга. Важна памятаць толькі адно—задача піонэраў у любы вольны час іці на пляцоўку для карыснага правядзеньня часу і

цягнуць за сабой усіх неорганізаваных дзяцей. Зразумела, пляцоўка зусім не павінна быць месцам, дзе выхоўваюцца гультаі і разбойнікі таму, што яны нічым не заняты.

Пераменай, разнастайнасьцю ў занятках, сталым дзяжурствам можна зрабіць пляцоўку ажыўленай, якая будзе добра працаваць і цікавіць усіх дзяцей.

Праца на пляцоўцы складваецца з такіх вялікіх частак:

1. Праца па організацыі ўсіх дзяцей.

а) Уцягненьне на пляцоўку неорганізаваных.

б) Наладжаньне для дзяцей разумнага адпачынку.

в) Прывучыць дзяцей да колектыўнага жыцьця (спайка, таварыская ўзаемадапамога, адказнасьць за працу, грамадзкая дысцыпліна).

г) Культурная праца (выданьне насьценнай газэты, наладжваньне гутарак, экскурсый, вывучэньне прыроды).

д) Працоўная дапамога беднаму насельніцтву і мясцовым грамадзкім організацыям.

е) Агітацыя за ўступленьне ў піонэрскую організацыю, утварэньне (дзе маецца моцны піонэрскі атрад) групы акцябрат.

ж) Організацыя розных гурткоў (натуралістаў, культурных земляробаў, ручной працы, рыбаловаў, кураводаў). Гурткі ўтвараюцца на розныя тэрміны для выясьненьня аднаго якога небудзь пытаньня, а ня цэлай програмы. Такія-ж гурткі могуць складацца і па тэхнічных навыках.

з) Грамадзкая праца—правядзеньне летніх кампаніяў, удзел у працы Авіяхіму, МОПР'у, Таварыства „Прэч Няпісьменнасьць“—растлумачэньне задач гэтых організацый сялянам і дзецям.

і) Масавая праца—дзіцячыя сьвяты, масавыя гульні, выстаўкі, (напрыклад—першы збор ураджаю з піонэрскага агароду; узораў мясцовых мінэралаў,

каменьняў, расьлін, кузурак і г. д.), прагулка і экскурсія (у лес, на рэчку, у суседнюю вёску да піонэраў).

2. *Аздараўленьне.*

а) Прывучэньне дзяцей да гігіенічных навыкаў (чыстата цела, адзежы, самой пляцоўкі).

б) Практыкаваньні па фізкультуры (вольныя рухі, гімнастыка, масавыя гульні).

в) Карыстаньне паветраю, вадою і сонцам.

г) Клапаціцца аб грамадзкай санітарыі і гігіене. Пляцоўка-лячэбніца для дзяцей і ўзорны цэнтр чыстаты для ўсёй вёскі.

*Плян.*—Пералічаныя прыклады піонэрскай працы на пляцоўцы хоць і падзелены ўсяго на два асноўных разьдзелы—усё-ж шматлікія. Не абавязкова праводзіць на пляцоўцы ўсё тое, што тут адзначана. Трэба зараз скласьці плян, у якім адзначыць, што да такога і такога тэрміну трэба выканаць пэўную практычную працу і г. д.

У пляне працы атраду, які складаецца на 3 месяцы, задачы працы паказаны зусім яскрава; яны таксама маюць месца і на пляцоўцы, дзе праводзіцца праца ўлетку. Аднак-жа, апрача гэтых задач, у плян уводзіцца яшчэ асобны пункт. У гэтым пункце, уявім сабе, гаворыцца: на пляцоўцы наладзіць сьвята ў дзень Конституцыі СССР, пачаць гурткавую працу, праводзіць галоснае чытаньне кніжак, газэт і часопісяй, прынесьці для лепкі скрынку з глінай, рабіць гімнастычныя практыкаваньні для паляпшэньня мускулаў рук, жывата, ног і дыханьня, правесьці мэдыцынскі агляд дзяцей, схадзіць на экскурсію ў завадзкі саўхоз, вывучыць 5 новых гульняў і 3 песьні (указваючы якія) і г. д.

Згодна з гэтым плянам-канвой—павадыр і наладжвае працу на пляцоўцы. Гнацца за шмат чым,

зразумела, шкодна, плян павінен будавацца, выходзячы з тых сродкаў і сіл, якія маюцца.

*Гігіенічныя навыкі.*—Аздаравіцельная работа пляцоўкі зьяўляецца самай адказнай работай. Неабходна, каб лета прайшло недарма і піонэры прывучыліся ў кожнай дробязі захоўваць гігіену.

Навучыцца ўмывацца мылам, ня класьціся спаць з бруднымі нагамі, стрыгчы валасы на галаве, не хадзіць у бруднай, нязручнай адзежы, (напрыклад—у даўгіх—„да пят"—штанах), па магчымасьці чысьціць зубы і рабіць абціраньне цела да поясу, піць толькі пераваранпую ваду (у крайнім выпадку, крынічную), ня есьці сапсутых і зялёных ігрушаў і агародніны, не забруджваць ранаў, лячыць нарывы, вывіхі, урэшце, усюды і заўсёды захоўваць чыстату.

Праз парады, узорныя суды, пытаньні і адказы, жывыя п'есы-інсцэніроўкі, агляды цела і г. д, шляхам ужываньня выхаваўчых мер трэба дабіцца, каб піонэры і неарганізаваныя зразумелі паважнасьць гігіенічных навыкаў і сьвядома пачалі выконваць гігіенічныя правілы.

*Фізкультура, купаньне, загара.* Фізкультура вясковага піонэра павінна быць нескладанай. Яна павінна мець натуральныя, найбольш карысныя рухі, напрыклад: бег (на кароткую адлегласьць і ня доўга), скаканьне ўверх і шырыню, фігурная маршыроўка, хадзьба з песьнямі, кіданьне. Прывучыць дзяцей рабіць глыбокія ўдыханьні, выдыхаючы паветра праз нос, а ўдыхаючы праз рот.

Купаньне павінна праводзіцца арганізаваным шляхам, лепш усяго колектыўнае, ня больш двох-трох раз на дзень, пад кіраўніцтвам старэйшых. Трэба імкнуцца да таго, каб усіх дзяцей ва ўзросьце 7—8 гадоў навучыць плаваць. Купацца ў чыстай вадзе—ня там, дзе мыюць бялізну, або кудою пераганяюць

коняй, кароў і г. д. Месца трэба выбіраць вышай па плыні ракі ад гэтых забруджаных месц.

У вадзе ніякіх гульняў, розных жартаў—не рабіць. Рухі рабіць плаўныя, паступова рукамі і нагамі, вучачыся плаваць спакойна як на жываце, так і на баку і на сьпіне; даваць нурца і куляцца ў вадзе шкодна. У вадзе быць ад 5—20 хвілін—больш быць шкодна; пад вачыма зьяўляюцца ўпадзіны, чалавек пачынае худзець На беразе трэба выцірацца палатнянымі ручнікамі дасуха, зразу, каб не азябнуць.

Асабліва карысна дзеяньне праменьняў сонца на чалавечы організм, на яго скуру. Сонца зьнішчае заразныя мікробы, вылечвае розныя хваробы і спрыяюча дзейнічае на організм. З дазволу доктара і пад яго нагляданьнем на пляцоўцы можна наладжваць сонечныя ванны.

Пляцоўка павінна прывучыць дзяцей летам не закручвацца лішнімі шалікамі, хадзіць бяз рубашкі (або з расьцягнутым каўняром) і ў кароткіх трусіках (штонікі да кален).

*Увага неорганізаваным.* Сялянскія дзеці куды менш ахоплены піонэрскім рухам, чым дзеці рабочых у гарадох.

Неорганізаваных дзяцей трэба прыцягнуць на пляцоўку. Браты і сёстры піонэраў, асобныя, таварыскі спаяныя групы дзяцей, павінны быць першымі на пляцоўцы пасьля піонэраў. Піонэры даведваюцца аб імкненьні неорганізаваных (пагуляць, ляпіць што небудзь, або майстраваць) і організуюць такія заняткі на пляцоўцы, заклікаючы неорганізаваных прыняць у гэтым удзел.

Дрэнна стаіць справа ў шмат якіх месцах з уцягненьнем сялянскіх дзяўчатак у піонэрскія атрады. Пляцоўку прыдзецца выкарыстаць для асобных заняткаў з дзяўчаткамі, уцягваючы шляхам гэтага іх у піонэрскія атрады.

„Неорганізаваных—на пляцоўку“—вось наш лёзунг, ён павінен быць выкананым.

*Організаваць адпачынак дзяцей.* Часта сялянскія дзеці бываюць сарамяжнымі, маларухавымі і любяць, як кажуць, у кожнай справе „схаваць канцы ў ваду“. Іх адпачынак, забавы праходзяць сумна, аднастайна. Мала таго, каб прыцягнуць неорганізаваных на пляцоўку,—іх трэба организаваць. Задача пляцоўкі организаваць адпачынак, г. зн., разумнае выкарыстаньне вольнага часу ў дзяцей. Здаровы сьмех, бадзёрыя рухі, вольныя заняткі—вось элемэнты правільна наладжанага жыцьця на пляцоўцы.

*Як-жа організаваць адпачынак?* Зразумела, што гэта можна выканаць толькі ў тым выпадку, калі піонэры шчыра возьмуцца за такую працу, стануць пачынальнікамі, ініцыятарамі ў организацыі масавага адпачынку.

Пачаўшы з простай цікавай гульні, пераходзячы да кнігі і газэты, піонэры ўжо змогуць зьяднаць наорганізаваных і для якой небудзь вялікай грамадзкай працы, напрыклад, з дапамогай комсамолу паправіць мосьцік, дарогу, пракапаўшы дзе трэба роў, абсадзіўшы дрэўцамі дарогу і г. д.

Песьня і гульня, прагулкі ў лес за ягадамі, за грыбамі, колектыўнае купаньне, гутарка і маляваньне, праца на агародзе, фізкультура і грамадзкая праца,—вось шматлікія моманты, якія ўваходзяць у організацыю адпачынку. Трэба толькі пачаць з простага, вясёлага і цікавага для дзяцей.

*Гульні.* Бываюць выпадкі, што піонэрская праца залішне „хварэе“ рознымі плянамі, рэзолюцыямі, дакладамі і пасяджэньнямі, а аб жывой, забаўнай і цікавай форме заняткаў зусім забываюцца. Гэта ненормальна.

Летам пляцоўку трэба выкарыстаць для наладж-

ваньня гульняў. Гульні павінны быць самымі разнастайнымі і праваdзіцца па пэўных правілах.

Гульні выкарыстоўваць можна з розных зборнікаў, выданых „Маладой Гвардыяй“, з газэт, часопісяй і г. д. У беларускай мове выданы зборнік гульняў П. Хэйфэца і Н. Задорына, іх варта скарыстаць. Урэшце, атрады павінны пачаць абменьвацца гульнямі адзін з другім, асабліва, калі гэтыя гульні зьяўляюцца каштоўнымі і праверaны на вопыце.

У часе адпачынку раіцца выбіраць гульні, якія патрабуюць ад выканаўцы шмат увагі; такія гульні робяць памяць больш гібкай і разумова разьвіваюць дзяцей.

Усе мясцовыя гульні трэба таксама перанесьці на пляцоўку, імкнуцца, каб дзеці гулялі ў іх толькі на пляцоўцы, а не на пыльнай дарозе.

*Гутаркі і чытаньне.*—Раз на тыдзень на пляцоўцы, сіламі павадыра, перадавых культурных сялян і мясцовай інтэлігенцыі, трэба праводзіць гутаркі.

Гутаркі раіцца праводзіць на такія тэмы:

1. Сельская гаспадарка і прырода (як даглядаць за рознымі пародамі малочнай жывёлы, ачыстка хлявоў і стаянак, догляд за курамі, клопаты аб чыстай вадзе, як ухіліцца таго, каб вада не заражалася і не забруджвалася; зорнае неба; граза, дождж).

2. Аб рэволюцыйнай барацьбе. (Растлумачыць аб Комінтэрне і Сялянскім Інтэрнацыянале, аб жыцьці і змаганьні рабочых у розных краінах, аб Кітаі і нацыянальна-вызваленачай барацьбе на Ўсходзе, аб рэволюцыйным мінулым рабочых і сялян бывшай Расіі і г. д.).

3. Аб тым, як павінны працаваць піонэры і як організаваны дзеці іншых краін.

4. Аб Комсамоле і грамадзкіх організацыях вёскі.

Гутаркі праводзіць коратка, даваць наводзячыя на адказ пытаньні і ілюстраваць іх яскравымі фактамі, параўнаньнямі і чытаньнем з кніжак. Гутаркі наладжваць як на зборы атрадаў, так і на паасобных зборах зьвеньняў; сюды-ж трэба ўцягваць і неорганізаваных.

Чытаньне як популярных (даступных) кніжак па сельскай гаспадарцы, так і піонэрскіх газэт і часопісяй і паасобных мастацкіх апавяданьняў наладжваецца для тых, хто мае жаданьне іх слухаць. Чытаньне павінна быць галосным, выразным. Пасьля яго дзецям варта рабіць кароткія запісы і абавязкова абгаварваць прачытанае.

*Прагулкі і экскурсіі*. Разоў два на месяц (часьцей не дазволіць адсутнасьць вольнага часу) піонэры разам з жадаючымі неорганізаванымі ідуць на прагулкі ці экскурсію.

Прагулкі ў лес, на возера, на чыгунку, да якой небудзь вёскі, паселішча і г. д.—не павінны зморваць дзяцей. Іці трэба несьпяшаючыся, пасьля кожнай гадзіны адпачываць 10—15 хвілін, трэба захапіць з сабою яду, бутэлькі з чыстай вадой.

На месцы экскурсіі наладзіць сьнеданьне, гульні, гутарку, купаньне.

Для экскурсіі і на вёсцы знойдзецца шмат розных цікавых месцаў. Асабліва трэба загадзя дагаварыцца з тымі таварышамі, якія на экскурсіі будуць даваць тлумачэньні і адказы на пытаньні ўдзельнікаў.

Вось прыкладнае пералічэньне месцаў, куды пажадана схадзіць на экскурсію: племянная гаспадарка, пажарны хлеў, коопэратыў, саўхоз або асобная культурная гаспадарка селяніна-серадняка, розныя млыны, электрычная станцыя, тэлеграф, чыгунка і інш.

Экскурсіі ўзбагацяць памяць дзяцей, пагэтаму экскурсійны, дасьледчы матар'ял пляцоўка павінна выкарыстаць у сваёй працы.

*Гурткі.* Трэба зацікавіць удзельнікаў пляцоўкі працай у гуртках. Такія гурткі ўтвараюцца для высьненьня асобных пытаньняў. Напрыклад, зьвяно піонэраў, разам з жадаючымі неорганізаванымі ўтварыла гурток „змаганьня з шкоднікамі агародаў“. Сабраліся, абгаварылі пытаньне аб тым, што на капусту напаў зялёны чарвяк (вусені—„баярышніцы“), прачыталі кніжку, параіліся з чалавекам, які ведае гэту справу, і пачалі змаганьне з гэтым чарвяком (зьбіралі, зьнішчалі, лавілі бабачак, і займаліся апырскваньнем капусты). Мінуў час і гурток спыніў сваю дзейнасьць.

Па кожнаму асобнаму пытаньню (электротэхніка, радыё, пляценьне кашоў, пчалярства, агародніцтва) раіцца ўтвараць гурткі,—ідучы на спатканьне імкненьням дзяцей і праводзячы ў гэтых гуртках нескладаную, даступную па ўзросту дзецям працу. Гэту працу можна праводзіць і праз зьвёны.

*Дапамога грамадзкім організацыям.* Пляцоўка — асяродак грамадзкага жыцьця вёскі, а ў першую чаргу, бясспрэчна, саміх дзяцей. А калі гэта так, дык пляцоўка павінна як мага больш уцягнуць сваіх сяброў у актыўную грамадзкую працу.

Такой працы знойдзецца вельмі шмат. Узяць хоць-бы Дзяржстрах. Піонэры агітуюць за страхаваньне, глядзяць за тым, каб маленькія дзеці не забаўляліся з запалкамі, а дзеці старэйшага ўзросту ня курылі і, урэшце, у часе пажару хутка зьбіраліся, дапамагалі ахоўваць маемасьць пагарэльцаў, перадавалі вёдры з вадой для тушэньня пажару і г. д.

Піонэры могуць значна дапамагчы працы таварыства „Далоў няпісьменнасьць“, вылучыўшы сваіх

пісьменных сяброў для правядзеньня заняткаў з няпісьменнымі дзецьмі школьнага ўзросту. Навучыць праз пляцоўку 5—10 чалавек грамаце і лічэньню— лепшае дасягненьне піонэраў.

Піонэры клапоцяцца аб тым, каб на рацэ, дзе сялянкі мыюць бялізну, былі зручна для іх працы пакладзены каменьні, а на беразе зроблены ўсходы; яны-ж пастараюцца папрравіць дарогу і г. д.

Піонэры змогу ь дапамагчы і ў працы дзіцячых яслаяў, адрамантаваць разам з майстрамі школу, разьнесьці лісты па хатах, прачытаўшы іх няпісьменным, выконваць дробныя даручэньні вясковага савету і наогул праводзіць даступную для іх грамадзка-карысную працу.

Грамадзкая праца зьяўляецца для піонэраў лепшай выхаваўчай загартоўкай. Праз грамадзкую працу пляцоўка зможа заваяваць сабе аўторытэт з боку сялян.

### Кіраўніцтва працай на пляцоўцы

Кіраўніцтва павінна праводзіцца перш за ўсё па пэўнаму пляну.

Хто складае плян працы, зацьвярджае яго і кіруе яго выкананьнем? Можа, як кажуць іншыя, для гэтага неабходна спэцыяльная організацыя—савет пляцоўкі, які-б ведаў гэтай справай?

Такі савет утвараць зусім немэтазгодна і лішне.

Пляцоўка не зьяўляецца асобнай, самастойнай дзіцячай організацыяй. Пляцоўка—месца, дзе праводзіцца летняя праца атраду, куды ўцягваюцца (зусім дабраахвотна, без якіх-бы там ня было „членстваў“) усе жадаючыя дзеці, ва ўзросьце, прыкладна, з 5—6 і да 15 гадоў, але разьлічваецца яна на піонэрскі ўзрост. Адсюль працай на пляцоўцы кіруе непасрэдна савет піонэрскага атраду, які і распра-

цоўвае плян. Гэты плян зацьвярджаецца ячэйкай ЛКСМБ на сходзе або на бюро.

Вясковая організацыя Комсамолу ў гэтым годзе першы раз будзе кіраваць і даваць напрамак такой новай, вялікай працы піонэраў у вёсцы, як праца на пляцоўках. Гэта трэба мець на ўвазе вясковым ячэйкам. Адказнасьць за працу на пляцоўцы шмат прыпадае і на комсамольскую ячэйку.

Разоў два за лета павадыр павінен перад Комсамолам зрабіць справаздачу аб працы пляцоўкі і атрымаць ад іх тыя ці іншыя практычныя паказаньні па далейшай працы.

Для таго, каб выявіць адносіны сялян да пляцоўкі, прыблізна, праз месяц пасьля ўрачыстага адчыненьня апошняй трэба склікаць сход сялян як бацькоў піонэраў, так і зацікаўленых сялян і на гэтым сходзе абгаварыць пытаньне аб тым, як праводзіцца праца на пляцоўцы. Спрэчкі пакажуць, — што добра і што дрэнна на пляцоўцы і як неабходна ў далейшым кіраваць гэтай працай.

Такім чынам, не ўтвараючы лішніх саветаў можна зусім добра ўлічваць тое, як кіраваць пляцоўкай і што на ёй рабіць.

Гэта кіраўніцтва павінна адчувацца ва ўсёй штодзённай працы пляцоўкі. Кіраўніцтва па лініі зьместу працы грунтуецца на летніх задачах, дадзеных атраду мясцовым бюро ЮП.

Заданьні—асноўнае ў працы піонэрскай пляцоўкі.

## Падлік працы

Падлік працы на пляцоўцы мае вялікую пэдагогічную вартасьць для дзіцячага руху і школы.

Апрача таго, падлік карысны для абмену вопытам як паміж асобнымі піонэрскімі пляцоўкамі раёну, так і між цэлымі піонэрскімі організацыямі розных акругаў.

Гэты-ж падлік значна дапаможа вызначыць працу на васеньнія месяцы, г. зн. дапаможа без асаблівых труднасьцяй пераабсталяваць пляцоўку на зімовую Якія-ж формы падліку можна раіць?

Формы гэтыя павінны быць не шматлікімі і простымі. Гэта асноўнае запатрабаваньне. Вось пералічэньне гэтых формаў:

1. Атрадны дзеньнік павадыра (у ім павадыр запісвае свае ўражаньні, заметкі аб штодзённай працы, ня робячы дзеньнік сухой справаздачай).

2. Справаздачы (пісьмовая справаздача павадыра, даклад, пастановы па дакладу і г. д.).

3. Справаздача кожнага піонэра на зьвяне аб праведзенай працы.

4. Дыяграмы (колькі ахоплена дзяцей пляцоўкай у кожным месяцы).

5. Плян пляцоўкі.

6. Насьценная газэта, жывая газэта, песьні, частушкі, гульні, якія праводзяцца на пляцоўцы.

Гэты матар'ял па падліку можна будзе зьмясьціць на выстаўцы, якую атрад організуе з прычыны зачыненьня летняй пляцоўкі. Пасьля гэтага матар'ял захоўваецца ў справах піонэрскага атраду і толькі копіі яго (падлікавага матар'ялу) павадыр адсылае ў райбюро ЮП, праз ячэйку ЛКСМБ.

Вельмі карысным і каштоўным будзе, калі павадыры будуць высьвятляць працу пляцовак на старонках кіраўнічых і піонэрскіх часопісяй. („Вожатый", „БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР"). У гэтых матар'ялах яны змогуць расказаць аб тым, як яны організавалі пляцоўку, што на ёй рабілі, якія меліся недахопы ў працы і якія ў іх маюцца прапановы для зьнішчэньня недахопаў мінулай працы.

---

## ЗЬМЕСТ

